Іскры Ільіча

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ МАЛОДШАГА ЎЗРОСТУ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ ВЕРАСЕНЬ 1934 № 9



# У ШКОЛЕ

І спяваюць, і крычаць,
Шум і смех наўкола...
Дзе-ж тут можа хто змаўчаць
Каля нашай школы!
Але вось званок — дзінь, дзінь:
Гэй, у клас, у клас ідзі!
Гоман сціх і ні гугу...
Толькі вецер справіў гул.
Лісце рве. Шумяць кусты.
Двор цяпер зусім пусты.
А у класе цішыня,—
Ні шумяць і ні бубняць.
Ясь на чорнай дошцы мелам
Піша чыста і умела.
А пасля чытала Зося,
Невялічкі верш пра восень.
Потым Вася небарака
Каля дошкі чуць не плакаў.
Ён пачаў цішком гадаць,
Колькі будзе 2+5.
Выйшла восем замест сем,
Невясёлым Вася сеў.
А яго паправіў Коля:
— О, не выйдзе так ніколі!
І выразна піша 7.
„Так",—падцвердзілі усе.

* * *

Што за шум, за стук, за крык?
Зноўку перамена...
Гэта-ж стольні дзетвары
Тут на нашай змене.
І спяваюць, і крычаць,
Крык і смех наўкола...
Дзе-ж тут можа хто змаўчаць
Каля нашай школы!

**С. Шушкевіч.**

# „Нзд“

Апавяданне С. Баранавых
Малюнкі Г. Ізмайлава

У мяне ўсё-ж такі вялікае няшчасце. Я цяпер прышоў са школы і не магу: вочы мае макрэюць і макрэюць. Добра, што ў хаце яшчэ не палілі агню, дык не відаць маіх вачэй. А бацька з маткаю недзе яшчэ на калгасным полі (цяпер-жа выбіраецца бульба). Але мой дзед вельмі-ж ужо здагадлівы:

— Чаго ты, Пятручок, такі насупісты?— пытае ён мяне.—Ці не пабіўся, можа, зноў з Цітком?

— Я-ж не разбойнік,—са злосці буркнуў я дзеду Данілу.

Учора Цiток сапсаваў маё пяро. Прабаваў як яно піша—павёў па голай скамейцы, а яно і распасцерлася. Пяро-аўсянка—і такога нідзе не дастанеш. Дык я і не біўся, а толькі так... Але-ж сёння не ў пяры тая справа.

— Я ведаю, што ты не разбойнік,— кажа зноў дзед Даніла.—Але-ж ты нейкі невясёлы...

Я маўчу ад такіх дзедавых здагадак. Мяне яшчэ больш бярэ жаль: вельмі ён ужо ведае мяне!

Я сяджу цяпер за сталом. От гэтак падпёрся абодвума рукамі і не магу проста гаварыць з дзедам Данілам. І калі я маўчу, дык і дзед Даніла маўчыць. Праходзіць цэлая хвіліна і мне нават і хочацца, каб гаварыў дзед. Мне ад жалю хочацца ўсё яму выказаць.

А дзед падыходзіць аж да мяне—руку кладзе на маю галаву ды пытае:

— Можа ты што згубіў?

— Не згубіў,—больш мякчэй адказваю я,—а знайшоў... „Нзд“.

Дзед не ведае, што такое „Нзд“ і ў мяне нават смех прабягае.

— Гэта-ж, мусіць, піонерскі значок?—пытае дзед.

У мяне цяпер ад такіх слоў смех аж услых.



„Гэта-ж, мусіць, піонерскі значок?“—пытае дзед.



— Які ты, дзед,—як малы,—зусім неяк прайшла мая злосць.—„Нзд“—гэта-ж нездавальняюча. Разумееш! Я не рашыў задачы і Мар'я Сямёнаўна паставіла і ў сябе ў журнале і ў мяне ў сшытку гэтае „Нзд“. Вот!

Цэлую хвіліну дзед Даніла маўчыць, а потым:

— Ну то што ж?

Да мяне зноў падскочыла злосць. Дзед не разумее, што праз гэты „піонерскі значок“ я не паеду на экскурсію.

— Праз месяц у нас, ты ведаеш, экскурсія. Мы паедзем у соўгас „Афрыканка“,—кажу я дзеду.—Там унь колькі курэй Афрыканак і розных, якіх хочаш. Табе што абходзіць. Ты не ведаеш, што на экскурсію паедуць толькі тыя, у каго ні аднаго няма „Нзд“. Дык вось табе і „ну то што-ж“!

— Ага,—ківае дзед галавой.—Якая навука... Добра, мой Пятручок, добра. Я вельмі нават унь як рад...

Я не ведаю, што з дзедам Данілам. Ён рад, што я не паеду на экскурсію. Ён рад, што я атрымаў гэтае „Нзд“. У мяне зноў на адзін момант замакрэліся вочы. Я ад туману не бачу майго дзеда.

— Я і не хачу яго бачыць!—шэпча маё нутро,—калі ён гэта такі...

Але дзед як і не чуе майго гора. Ён прысеў каля самага мяне, павольна адняў маю руку ад твара ды казаў:

— А калі я вучыўся, мы, бывала, нават і не чулі, каб дзе ехаць. Нам, калі я вучыўся, і не ставіў дарэктар твайго гэтага „Ндз“.

—„Нзд“,—паправіў я дзеда.

Ён змаўчаў адзін момант ды зноў:

— Няхай сабе патваему... Мы, бывала, ведаеш як вучыліся?—па хатах. Школы не было, а нашы бацькіноймуць дарэктара (тады настаўнік зваўся дарэктарам) і ён вучыць па тыдні. Колькі дзяцей ідзе вучыцца з хаты, столькі тыдняў трэба адбыць у той хаце. І карміць трэ' было гэтага дарэктара, і плаціць. І не ставіў адметак у журнал, а лінейка рабіла адметкі на руцэ.

Даніла крыху падумаў пра неваштa. У мяне цяпер, здаецца, вочы не макрэліся.

— Як гэта лінейка рабіла адметкі?—запытаў я раптам дзеда Данілу.

Ён аж усміхнуўся ды зноў:

— Памятаю як цяпер... Мы былі вучыліся той тыдзень у Лаўрыкавай хаце. На ўсю хату ўдоўж два сталы, а мы кругом іх, на лавах, на зэдліках. Якраз былі вывучалі сціхатварэнне—„У Халмах, сяле бальшом, ёсць цэркаў новая. Вазвдвігла новы дом сума таргова я“. Дарэктар гэтак ходзіць па хаце—чытае, а мы за ім у адзін голас. І трэба было, каб голас у голас. Калі хто ледзь выткнецца наперад, альбо ззаду астанецца—будзе адметка на лбе або на руцэ. Вот!

Ён усміхнуўся, паглядзеў мне ў твар ды казаў:

— Дык я памятаю, мы не маглі выгаварваць „цэрксвь“. Мы і другія словы не так ужо добра выгаварвалі, але наш дарэктар спаганяў сваю злосць на гэтым слове.

— Цэрковь, цэрковь!—крычаў ён, аж пачарнеўшы ад злосці.

А ў нас выходзіла—„цэркаў“. Тады ён кінуў крычаць ды закамандваў нам устаць.

— Стойце сталбом, аслы! — загадаў ён нам. У нас на вачах—слёзы і мы стаім як укапаныя. А ён—лінейку ўзяў і па парадку, падыходзячы да кожнага:

— „Давай лапу!“—з усяго размаху як дасць па далоні—аж іскры сыплюцца з вачэй. А лінейка ў яго была шырокая, доўгая, дубовая. Ты не ведаеш, што гэта за боль, калі далонь успухне як падушка.

Я маўчу і не ведаю, што мне казаць. Дзед Даніла таксама маўчыць. Ад нашага спакою нават чуваць як на сцяне чэкае гадзіннік-ходзікі.

— Дык я-б не вучыўся ў такога дарэктара,—раптам парушаю я маўклівасць.

Дзед Даніла зноў усміхаецца. Яму, мусіць, весела, што я пачынаю з ім гаварыць.

— Не вучыўся-б, кажаш—гм!—а дзе-ж-бы ты вучыўся? Бацька апошнюю капейку аддаваў на мяне, дык у яго вунь якая была-б злосць. Прыдзеш, бывала, дадому з заплаканымі вачыма, з успухшаю рукою і бацьку не скажаш. Ды ці гэта было! Бывала, як прыедзе бацюшка, ды як пачне пытаць закон божы... Дарэктар любіў хадзіць каля нас з лінейкаю, а бацюшка дык усё ставіў каленьмі на жарству... Альбо грэчкі скажа, каб дала тая самая Лаўрычыха. Ды без полудня як пакіне...

Ад дзедавай гаворкі я і не прыкмеціў, калі скрыпнулі дзверы і калі ўвайшоў у хату мой бацька. Я адразу аж зварухнуўся: мне нязручна стала, што дзед сядзіць каля мяне, як каля малога. Але я не пасунуўся ад дзеда. Мне было шкода майго добрага дзеда. Хай-бы ён цяпер вучыўся, а не некалі. Дарма сабе, што ў мяне „Нзд“—гэты дзедаў „піонерскі значок“. Яшчэ пакуль ехаць у соўгас—у мяне будзе і „Вд“. Усёроўна будзе!

Бацька нібы не заўважыў нас з дзедам. Я чую, як ён маўкліва шастае запалкамі—будзе зараз паліць лямпу.

— Мне хочацца вады,—кажу я да дзеда і вылажу з-за стала.

Гэта-ж я хачу, каб не заўважыў бацька пры агні, што ў мяне быў хмурны твар.



*Ён не ставіў адметак у журнал, а лінейка рабіла адметкі на руцэ...*



# ПАРАНЕНЫ КРЫЖАН

Апавяданне О. Слісарэнкі
Малюнкі В. Тіхановіча

## I

Да ўсходу сонца крыжаны варочаліся з начнога пасьбішча. На азёрах, у чаротах ды асоках, яны хаваліся да вечара. Як пачынала змяркацца, зноў чарада за чарадою ляцела на балотцы, багатыя на спажыву, а то і проста ў поле.

У час такіх пералётаў паляўнічыя толькі і страляюць качак. З набітымі стрэльбамі яны хаваюцца ў кустах і чаротах ды чакаюць, пакуль качкі падляцяць бліжэй.

Хаваюцца паляўнічыя таму, што качкі вельмі асцярожныя, асабліва вялікія качкі-крыжаны. Заўважыўшы якую небяспеку, яны далёка аблятаюць тое месца.

Аднае раніцы чарада крыжаноў з сваім важаком ляцела на возера. Важак другі год вадзіў сваіх качак і нічога з імі не здаралася. А на гэты раз крыжаны не заўважылі паляўнічага ў чароце каля самага возера, дзе яны меліся сесці.

Як толькі пачалі крыжаны зніжацца, каб сесці на ваду, з чароту пачуліся два стрэлы. Адна качка каменем упала ў траву на беразе возера, а рэшта скоранька ўзнялася ўгору. Толькі важак адстаў ад сваіх і, праляцеўшы трохі, сеў недалёка ў асаку.

Паляўнічы не пайшоў шукаць параненага крыжана. Ён ведаў, што, калі крыжану ўдалося хоць трошкі адляцець, то яго цяпер не знойдзеш нават на чыстай вадзе.

Важак, ранены пад крыло ў цела, як толькі сеў на ваду, дык адразу нырнуў. У вадзе ён ухапіўся дзюбай за сцябло асакі і так

трымаўся, пакуль хапіла сілы. Час ад часу ён выныраў на паверхню, каб дыхнуць свежым паветрам, але доўга не заставаўся на вадзе. Стрэлы напалохалі яго. Колькі разоў важак намагаўся выпрастаць крыллі, падляцець, але крыло вельмі балела і ляцець нельга было.

Цэлы дзень асцерагаўся крыжан, каб не трапіць на вочы паляўнічаму, а ўначы выйшаў на бераг шукаць траву. Ён знясілеў за дзень, крыло яго балела і ён, пашчыпаўшы травы, сеў пад кустом адпачыць.

Так кожную ноч выходзіў пасвіцца на бераг, а раніцаю хаваўся ў высокай траве ўсімі пакінуты крыжан...

Толькі іншы раз там, дзе хаваўся ранены крыжан, садзіліся невялічкія чароды дзікіх качак-чырак ці сівакоў, і крыжан плаваў з імі, аж пакуль тыя не пералятали на іншае месца.

Крыло ўсё яшчэ балела, і рана ад шраціны не загойвалася.

## II

Пачыналіся халады. Пры першых замаразках птушкі паляцелі на поўдзень. Раніцаю чарот абмярзаў і асенні вецер гуляў па халоднай вазёрнай вадзе.

Рана ў важака загойвалася, але як і раней крыло яшчэ балела і выпрастаць яго нельга было. Крыжан бездапаможна мітусіўся ў чароце. Яму пагражала смерць ад голаду і холаду. Калі возера замерзне і да вады нельга будзе дабрацца, крыжан памрэ ад смагі.



Мінуў яшчэ тыдзень. Гусі і качкі доўгімі ключамі адляталі на поўдзень. На возеры нідзе ўжо не засталося птушак, а важак усё чакаў таго часу, калі ён зможа ляцець.

І вось аднае раніцы ён выпраставаў крыллі і ўзрадаваны падляцеў на шагоў пяць. З поўхвіліны ён пратрымаўся ў паветры, але гэта яго абнадзеіла: неўзабаве ён зможа ляцець наўздагон за шчаслівымі сваімі таварышамі!

А на другі дзень ён змог ужо даляцець да палавіны возера.

Мінуў яшчэ тыдзень. Аднае ночы ўдарыў скрыпучы мароз. Возера замерзла. Важаку засталося адно—або ляцець, або паміраць.

Коўзаючыся, вышаў крыжан з чароту на чысты лёд. Сваім вострым вокам убачыў ён у далечыне невялікую чараду запозненых чырак. Яны ляцелі на поўдзень.

Гэта надало сілы крыжану. Ён узмахнуў крыллямі над бліскучым люстрам замёрзшага возера і пачаў узнімацца ўгору.

Чарада чырак набліжалася, яна ляцела так высока, што ні з аднае паляўнічае стрэльбы не дастане іх шраціна.

Крыжан наглядаў за крылатымі падарожнікамі і, калі тыя параўняліся з ім, важак далучыўся да чарады. Ён скромна паляцеў у хвасце ключа на поўдзень, на цёплыя воды, дзе ён зможа перазімаваць і набрацца сілы...

— Глядзі! Глядзі! Пяцёра качанят і адна вялікая качка—закрычаў маленькі школьнік, паказваючы на чараду сваім таварышам.



— Ды гэта-ж не качаняты, а старыя качкі—чыркі, а вялікая качка—крыжан, яны часта таварышуюць,—паясніў старэйшы школьнік.

## АДГАДАЙ

Палатно, а не дарожка,
Конь—не конь,—сараканожка,
Па дарожцы той паўзе,
На сабе абоз вязе.
Мчыць стралой, не то што цягне,
Не запнецца, не прыстане,
Толькі з прысвістам пыхціць,
І поўсотні кіламетраў
Супраць ветру і за ветрам
За гадзіну праляціць.

# БОРКАЎ АЎТАМАБІЛЬ

Нарыс П. Левановіча
Малюнкі Е. Саматыя

Вясною сёлета скончыў Борка 4-ы клас. Перад заканчэннем вучобы ў школе наладзілі выстаўку вучнёўскай самадзейнай работы. На доўгім стале, сярод іншых рэчаў, стаяў самадзельны аўтамабіль. Яго аглядалі ўсе вучні. Адны хвалілі, другія стараліся знайсці недахопы ў рабоце. І толькі Борка моўчкі прыглядаўся да кожнай частачкі, а жаданне праехаць на такім бегуне запала глыбока ў сэрцы.

У той-жа вечар прышоў Борка да Грышкі, свайго таварыша... Выклікаў яго з хаты ды кажа, аглядаючыся:

— Грышка, хочаш быць у кампаніі?

— Ну, а што?—пацікавіўся Грышка.

— Давай аўтамабіль зробім.

— Аўтамабіль?.. Вунь што ён надумаў!

— Не такі, як быў на выстаўцы,—лепшы!..

— Не... Рабі, калі хочаш. Не так гэта лёгка зрабіць... Я думаў ты другое што скажаш.

Спахмурнеў Борка, крыўдна стала на Грышку, задуменны пайшоў дахаты.

---

І вось трэці дзень майструе Борка, выстругвае брускі, прымярае іх. Бярозавыя палкі знайшліся на двары, а стругаць іх лёгка...

Прышоў бацька на абед, паглядзеў праз акно на сынаву работу ды пытае ў маці:

— Што гэта ён там майструе ўсё?

— Адкуль-жа я ведаю?—адказала маці.

Бацька адчыніў акно на двор і паклікаў Борку абедаць.

— Я не хачу, толькі што еў...—канец Боркавага адказу загубіўся ў стуку малатка.

Неўзабаве вышаў бацька глянуць на Боркаву работу.

— Што-ж гэта ты майструеш, сынок?

— Нічога... Так сабе,—засароміўся Бора і адклаў выструганыя брускі ў бок, далей ад бацькавых вачэй. Але бацька заўважыў сынаву асцярожнасць і наўмысля падышоў бліжэй, узяў у рукі брусок, пакруціў, паглядзеў ды кажа:

— Ці асіліш зрабіць?

— Пра што гэта вы?—здзівіўся Борка з бацькавай здагадлівасці. І ў галаве прабегла раптоўна думка: „хто сказаў яму? Адкуль ён ведае?“



Бацька палажыў выструганыя Борам дрэўцы і навучальна сказаў:

— Мяне не ашукаеш. Я ведаю ўсё.— І тут-жа дадаў:—Займацца гэтым я ў тваіх гадах не меў вольнага часу, пастушком быў у дзяцінстве.

Пасмялеў Борка ад бацькавых слоў. Большая радасць ахапіла яго.

---

Перад Боркам цяпер адно: дастаць на педалі жалезны прэнт. Не дастанеш—усё прапала.

„Дзе-ж знайсці яго, той прэнт?—не дае супакою думка. Стаў прыпамінаць, дзе ён некалі бачыў падобны прэнт...

Прыпомніў... Злажыў усе дрэўцы ў парадак, у кучку і сам скоранька выбег. Неўзаметкі прабег у канец вуліцы. Вось і хата тая. Адчыніў дзверы ў сенцы. Стаў як укопаны. У кутку сянец калгаснага каваля Хацкаля стаяў тонкі прэнт.

Якраз такі прэнт і патрэбен Борку...

Памкнуўся ўзяць і цішком вярнуцца назад, але думка раптам кальнула: „Гэта-ж ты, выходзіць, украсці хочаш"...

І ўсё-ж рука міжвольна пацягнулася ў кут. Узяў халодны прэнт, мацае яго Борка...

Потым сорамна стала. Паставіў прэнт, адчыніў дзверы—нікога няма ў хаце. Завярнуўся назад, пакруціў яшчэ раз у руках прэнт, памерыў яго на вока і пайшоў на вуліцу.

У варотах сустрэўся Борка з кавалём—той ішоў на абед. Пачырванеў Борка, ногі затрэсліся ў каленях.

— Добры дзень, — нясмела прагаварыў Борка.

Хацкаль абвёў ласкава чорнымі, як вугаль, вачыма Боркаву постаць.

— Ну што-ж ты скажаш?

Адышоў страх у Боркі, смеласць з'явілася. А Хацкаль гэтым часам узяў невялікую Боркаву руку ў сваю шырокую далонь і павёў яго на двор.

— Хадзі, хадзі, брат, да мяне. Мы з бацькам тваім сябруем здаўна, а ты гэтак рэдка заходзіш да мяне.

„Ён такі добры, а я хацеў украсці прэнт!"— мільгае думка ў Боркі. І не ўтрымаўся Борка, расказаў Хацкалю пра свой ранейшы намер.

Рассмяяўся каваль зычным смехам:

— Ай, які-ж ты дзіўны, які! Дзе той прэнт?

— У сенцах, у кутку...

Пайшоў Хацкаль, вынес прэнт ды кажа ветліва:

— А калі трэба будзе сагнуць—прыходзь да мяне ў кузню, там зробім...

Не выбег, а стралою выляцеў з Хацкалевага двара Борка. Вясёлы паімчаўся к сабе ў павець.

---

Назаўтра падвечар вярнуўся бацька з работы—кончыла яго брыгада раней касіць канюшыну. Зайшоў ён у павець да Боркі. Прысеў на бервяне і ўпёрся вачыма ў аўтамабіль. Усміхнуўся незаметнай усмешкай, устаў, падышоў бліжэй.

— Ну, інжынер, скора паедзеш? А дзе-ж ты ўзяў на педалі прэнт?

— Дзядзька Хацкаль даў, — скоранька адказаў Борка, а сам яшчэ скарэй стаў пастукваць малатком: прабіваў накладку да канцоў восі.

Потым надзеў колы, а каб яны не скідаліся, убіў загваздкі.

— Ну, гатова. Глядзіце!—і вывез на вуліцу аўтамабіль.

Асцярожна сеў Борка на перакладзіну з дошкі, паставіў на педаль ногі. Крутнуў педалі, і разам з педалямі закруціліся калёсы, крануўся аўтамабіль.

Маці адчыніла акно, глядзела на сынаву работу. А ля варот стаяў бацька і радасна гаварыў ні то сыну, ні то маці:

— Маладзец. Калі і надалей будзе старацца—выйдзе на інжынера.

Заскрыгалі колы, пакаціліся ўдоўж па брукаванай вуліцы. А Борка, адвярнуўшыся назад, крычаў бацьку:

— Даганяйце, тата! Ну, паспрабуйце дагнаць.

На гэты час Грышка вышаў з двара, глянуў на Боркаў аўтамабіль і атарапеў. Шкада і зайздрасна стала—чаму не рабіў разам з Боркам? Ішоў услед і глядзеў, як падскаквалі колы па каменнях. А з хат выбягалі дзеці, суседзі працiралі шыбы і глядзелі праз вокны.

— Вось табе і Барыс...

— Глядзі, што за аўтамабіль, хоць на выстаўку вязі...

Яшчэ большую крыўду распальвалі ў Грышкі гэтыя словы.

— Ну, чаму я не памог яму? Гэта-ж мы абодва ездзілі-б і ганарыліся-б такою работаю...

А Борка, здаволены, завярнуўся ўжо назад і на ўсю моц ехаў дахаты; побач з ім беглі малыя дзеці, заглядалі з бакоў—чаму круцяцца колы, дзівіліся, што такі маленькі аўтамабіль і трымае на сабе такога рослага Барыса.





# ПРЫГОДЫ КАТА

Вольны пераклад А. Зіміонкі
Малюнкі А. Волкава

## ПРЫГОДА ДРУГАЯ*)

1

У бабкі Дар'і пацукі
Вечна робяць шкоду:
То з'ядуць мяшок мукі,
То вядзёрка мёду.
Вось, напрыклад, і цяпер:
Выскачыў з шуфляды
І пабег хвастаты звер...
Аніякай рады.

2

Бабка думае: „чакай!“
Дай ката паклічу:
Ён адразу пацука
Цапке у здабычу!
Ажно кот зірнуў у бок
І убачыў сала,
Малако, блінцы, тварог...
Эх, пашанцавала!

3

Ён налопаўся як след,
Аж бакі распёрла:
„Дзякуй, бабка, за абед,
Больш не лезе ў горла!“
Захацелася паспаць
Коціку ў зацішку,
Але ўперад пагуляць
Не пашкодзіць крышку...

4

Чуе коцік—ой люлі!
На паперцы мушкі,
Быццам пчолкі загулі—
Аж свідруе вушкі!
Зазлаваў на мушак кот:
„Ну, задам ім перцу!“
Кіпцюрамі зразу—цоп!
І прыліп к паперцы...

5

Мяў-мяў-мяў!—заплакаў кот—
Ні туды—ні сюды...
На падмогу цераз плот
Пераскочыў Руды.
Але хата пад замком—
Хоць ты лбом у дзверы—
І ніяк не ўлезці ў дом...
Ані ўзад, ні ўперад.

6

Як пачула бабка брэх,
Кінулася ў хату:
„Кот напэўна там усіх
Палавіў хвастатых!“
Ажно бачыць—ой-ой-ой!
Коцік як прыбіты
Плача горкаю слязой
І ляжыць спавіты...

---

*) Пачатак глядзі ў № 8.



# ГАСПАДАР І БАТРАК

## АРМЯНСКАЯ КАЗКА

Малюнкі А. Шахрая

Жылі на свеце два браты-беднякі: Вартан і Ашот. Калі беднасць іх зусім адолела, браты парашылі: няхай адзін застаецца дома, а другі ідзе ў батракі. Як задумалі, так і зрабілі. Ашот застаўся дома, а Вартан наняўся ў батракі да багатага гаспадара. Гаспадар сказаў Вартану:

— Будзеш у мяне працаваць да вясны, пакуль не закукуе зязюля,—толькі вось табе мая ўмова: не злавацца. Калі ты раззлуешся—плаці мне сто рублёў; калі я раззлуюся—заплачу табе столькі-ж.

— У мяне няма ста рублёў,—сказаў Вартан.

— Тады,—сказаў гаспадар,—ты працаваць будзеш у мяне дарам да наступнай восені.

Думаў-думаў Вартан, і згадзіўся. „Няхай гаспадар гаворыць мне што хоча—я злавацца не буду“—парашыў ён.

Назаўтра раніцай паслаў гаспадар Вартана ў поле.

— Ідзі,—сказаў ён,—касі, пакуль на дварэ відно, як стане цёмна, варочайся назад.

Вартан увесь дзень працаваў на полі. Увечары, як зайшло сонца, вярнуўся дамоў.

— Ты чаму вярнуўся?—пытае гаспадар.

— Сонца зайшло, стала цёмна, дык я і вярнуўся,—адказвае Вартан.

— Э, так нельга,—сказаў гаспадар.—Я-ж гаварыў табе: касі, пакуль на дварэ відно. Сонца зайшло, але затое месяц узышоў. Ён таксама не дрэнна свеціць.

— Што-ж гэта такое?—здзівіўся Вартан.—Няўжо і ўночы працаваць?

— Значыцца, ты злуешся?—спытаў гаспадар.

— Што ты! Што ты!—сказаў Вартан.—Я не злуюся...

І зноў пайшоў Вартан на поле працаваць

Месяц свяціў усю ноч, і ўсю ноч Вартан працаваў на полі. Раніцаю месяц зайшоў, але ўзышло сонца. Вартан паваліўся на зямлю і пачаў лаяць гаспадара. А гаспадар—тут як тут.

— Ты, здаецца, злуешся?—кажа гаспадар.—Ну, плаці мне сто рублёў або працуй дарам да наступнай восені.

Нічога не зробіш. Адпрацаваў Вартан да наступнай восені і вярнуўся дахаты з пустымі рукамі.

— Ну, шмат грошай зарабіў?—спытаў яго брат Ашот.

Заплакаў Вартан і расказаў брату, што з ім здарылася.

— Не бядуй,—сказаў Ашот,—цяпер ты заставайся дома, а я пайду наймуся ў парабкі.



*— Ты чаму вярнуўся?—пытае гаспадар.*



*— Паслухай,—закрычаў гаспадар,— людзі з работы ідуць, а ты яшчэ і не пачынаў працаваць.*

Пайшоў Ашот да гаспадара—наймацца. Гаспадар яму кажа:

— Будзеш працаваць да вясны, пакуль не закукуе зязюля. Але калі ты раззлуешся— заплаціш мне сто рублёў, а калі я раззлуюся—заплачу табе столькі-ж.

— Добра,—сказаў Ашот,—толькі сто рублёў—гэта мала. Давай лепш умовімся гэтак: хто першы раззлуецца—плаціць другому не сто, а тысячу рублёў.

Гаспадар падумаў: „Мне гэта яшчэ лепей, я атрымаю з гэтага дурня тысячу рублёў". Згадзіўся гаспадар.

Назаўтра сонца падышло ўжо высока, а Ашот усё яшчэ спіць.

Пачаў гаспадар будзіць яго.

— Уставай, дурань! Сонца ўзышло, а ты ўсё яшчэ валяешся.

— Ты гэта што-ж, злуешся?— пытае Ашот.

— Не злуюся,—кажа гаспадар,—а толькі на поле выязджаць пара.

Пацягнуўся Ашот раз-другі, пазяхнуў, пачухаўся, стаў лапці абуваць.

— Скарэй, браток,—кажа гаспадар,—вельмі-ж ты марудзіш.

— А ты што, злуешся?

— Злавацца — не злуюся, а толькі гэтак можна на работу спазніцца.

Пакуль Ашот лапці абуваў, пакуль мыцца хадзіў, пакуль на поле прышоў,—надышоў поўдзень.

— Ці варта працаваць цяпер?—кажа Ашот гаспадару.—Пара абедаць. Давай паабедаем спачатку.

Нічога не зробіш—селі абедаць. Пад'еў Ашот і кажа:

— Пасля абеда паспаць трэба, сілы набрацца...

Уткнуўся Ашот галавою ў траву і заснуў да вечара.

— Паслухай, пабойся ты бога!—закрычаў гаспадар.—Ужо змяркаецца, людзі з работы ідуць, а ты яшчэ і не пачынаў працаваць!

— Ты, здаецца, злуешся?—спытаў Ашот.

— Не, што ты!—сказаў гаспадар.—Я кажу, што змерклася, дахаты пара ісці.

— Гэта другая справа,—кажа Ашот,— пойдзем, калі так.

Два месяцы пражыў у гаспадара новы парабак. Не рад гаспадар, што з ім звязаўся. Работы парабак не робіць, час ідзе, і ні слова сказаць яму нельга.

Надумаўся гаспадар прагнаць парабка. Ды толькі як гэта зрабіць? Наняўся Ашот працаваць да вясны, пакуль зязюля не закукуе, а да вясны яшчэ далёка.

Падумаў-падумаў гаспадар і парашыў ашукаць парабка. Павёў ён сваю гаспадыню ў лес і загадаў ёй узлезці на дрэва.



*Падняў Ашот стрэльбу і пачаў у тую зязюлю цэліцца.*

— Як толькі мы з парабкам прыдзем на паляванне,—сказаў ён гаспадыні,—ты закукуй зязюляю, а сама не паказвайся.

Вярнуўся гаспадар дамоў, кажа Ашоту ў лес збірацца—на паляванне. Узялі яны стрэльбы, прышлі ў лес. Убачыла іх гаспадыня і давай кукаваць.

— Ку-ку! Ку-ку!

— Чуеш,—кажа гаспадар Ашоту,—ужо зязюля закукавала. Скончылася твая служба.

Зразумеў Ашот, што гаспадар ашукаць яго хоча.

— Ці-ж гэта бывае,—сказаў Ашот,—каб зязюля зімою кукавала? Трэба застрэліць яе, паглядзець—што гэта за птушка такая?

Падняў Ашот стрэльбу і пачаў у тую зязюлю цэліцца.

Кінуўся гаспадар на парабка, стрэльбу з рук вырывае.

— Стой, — крычыць, — чалавека заб'еш, нягоднік!

— Ты, як відаць, зусім раззлаваўся,— кажа Ашот.

— Чаму-ж мне не раззлавацца!—кажа гаспадар.—Замучыў ты мяне. Бяры свае грошы і ідзі ад мяне, куды хочаш.

А парабку толькі гэтага і трэба было. Атрымаў ён грошы, вярнуўся дахаты і зажыў спакойна разам з сваім братам.

# ПОП І ХЛОПЧЫК

## КАЗКА

**Жыў быў поп—валавяны лоб. Пайшоў поп малебства служыць. Убачыў на дарозе падкову, падняў яе поп ды так апёк рукі, што валдыры выраслі. Крыўда і злосць апанавала папа. Ідзе за ім хлопчык, поп і кажа:**



**— Вазьмі, дзіця, падкову, яна табе спатрэбіцца. Здасі яе ў кузню і грошы атрымаеш.**

**Хлопчык здзівіўся: такі добры поп! Не, думае, тут нешта не так. Нагнуўся ён і плюнуў на падкову. Падкова зашыпела. Даведаўся хлопчык, што яна гарачая, і ўзлаваўся на папа.**

**— Ты чаму малых навучаеш рукі апякаць?**

**Яшчэ большая крыўда ўзяла папа: „Не даў бог мне розуму. Хлопчык плюнуў, а я не здагадаўся“. Забыўся нават пра малебства. Прышоў дахаты і загадвае пападдзі: „Абедаць!“**

**Матушка жыва наліла толькі што звараны боршч. Але поп разумнейшым стаў. Ён цяпер, не абдумаўшы, не стаў есці, а спачатку плюнуў у боршч. Боршч не зашыпеў. Поп зарадваўся. Сербануў баршчу вялікай лыжкай і так апёкся, што ў роце скура адстала. Немым голасам закрычаў поп, а матушка, напалохаўшыся, сама абварылася баршчом, калі ставіла яго ў печ.**

**(Запісана піонерам В. Сцяпанавым, на Паўночным Каўказе).**

# САКРЭТ ЗАБАСТОЎКІ

Апавяданне Элен Кэй
Малюнкі Ф. Эліса

— Мой бацька—скэб? Мой бацька—скэб?—крыкнуў Джонні. Ды як вы адважыліся так назваць яго? Я кожнага паб'ю, хто паўторыць гэта!

— Дарэмна крычыш! Твой бацька—пракляты жоўты скэб. Ён спусціўся ў шахту працаваць.

— Мой бацька ніколі не быў скэбам!—Джонні накінуўся на аднаго з хлопчыкаў. Той быў старэйшы і большы за Джонні і Джонні астаўся з падбітым вокам і расквашаным носам.



Але ён не плакаў. Не! Гэта быў смелы хлопчык.

Ён тут-жа пабег дамоў, каб спытацца ў бацькі: ці праўда, што ён—скэб. Яго бацька—скэб! Што за глупства! Джонні і ўсе яго таварышы ненавідзелі скэбаў.

Гэта вельмі крыўднае слова—скэб. Тады, калі абвяшчаецца забастоўка і ўсе шахцёры кідаюць шахту, каб змагацца з гаспадарамі, скэб застаецца на рабоце. Ён адпраўляецца ў шахту, каб сарваць забастоўку.

Усе рабяты рашылі не даваць праходу скэбам і іх дзецям. Яны пакажуць ім... І раптам кажуць, што яго родны бацька—скэб! Яго бацька!

Джонні перабег па дзеравяннаму мосціку і памчаўся ўдоўж чыгункі. Ён убег у хату з крыкам:

— Мама! Дзе тата?

— Што з табою, Джонні?—запытала маці.—У цябе ўвесь твар у крыві!

Маці сілком павяла яго да рукамыйніка, але Джонні адбіваўся і вырываўся ў яе з рук.

— Дзе тата? Мне патрэбен тата. Дзе ён?

У гэты час увайшоў бацька, высокі, шырокаплечы чалавек з худым тварам і цёмнымі кругамі пад вачыма.

— Тата,—сказаў Джонні, гледзячы яму проста ў вочы,—ты сёння быў у шахце?

— Але,—адказаў бацька.

Джонні сціснуў кулакі. У шахце! Яго родны бацька, які заўсёды навучаў яго ненавідзець скэбаў, — сам скэб!

Слёзы хлынулі з вачэй у Джонні. Ён нават не заплакаў, калі яго білі

рабяты. Кроў з носа, падбітае вока—гэта глупства. А вось тут ён не выцерпеў.

— Тата, значыцца, ты сапраўды скэб?

Джонні кінуўся бегчы з дому, раней чым бацька паспеў што-небудзь выгаварыць. Ён бег і бег, куды вочы глядзяць, пакуль не апынуўся за горадам, на месцы, куды звозілі непатрэбнае ламачча. Тут ён сеў сярод абломкаў аўтамабіляў і задумаўся. Яго бацька—скэб, жоўты пацук! Як паказацца цяпер таварышам?

Джонні парашыў, што ніколі не вернецца дамоў. Ён уцячэ. Ён і сам не заўважыў як заснуў тут, за горадам.

Вялікі Джон даўно шукаў яго. Потым знайшоў і прынёс дамоў. Джонні не памятае як раздзелі яго і палажылі ў пасцель.

Раніцаю Джонні расплюшчыў вочы. Ён ані не здзівіўся, што ляжыць у пасцелі. Але адразу-ж пільна паглядзеў на бацьку.

„Скэб! Скэб! Скэб!“ застукала ў галаве Джонні. Ён усхапіўся і скоранька пачаў адзявацца. Бацька стаяў над ім і ўсміхаўся.

Яны заўсёды былі вялікімі прыяцелямі— Джонні і вялікі Джон. Куды бацька ідзе, туды і Джонні з ім. Джонні хадзіў разам з вялікім Джонам нават на тайныя сходы ў густы лес. Ён стаяў на ўскраі лесу і вартаваў, каб паліцыя не захапіла сход знянацку. Вялікі Джон ведаў, што можна даверыцца сыну. Ён сказаў:

— Сынок, ты зможаш трымаць язык за зубамі?

— Але,—кіўнуў Джонні.

— Дык вось, слухай... Я хаджу на работу, і кожны можа падумаць, што я—скэб. Але гэта не так, сынок. Мяне пасылае ў шахту наш новы саюз, каб вывесці з шахты другіх, каб і тыя, хто яшчэ не ўступіў у наш саюз—забаставалі разам з намі. Разумееш? Ніхто не павінен ведаць таго, што я табе сказаў. Гэта будзе наш з табою сакрэт— сакрэт забастоўкі.

Джонні даў слова маўчаць і стрымаў сваё слова. Джонні і яго бацька—вялікі Джон



моцна пацiснулі рукі і паглядзелі адзін другому проста ў вочы.

Джонні не так лёгка было трымаць свой сакрэт, асабліва, калі ўсе рабяты крычалі яму: „Скэб, скэб! Скэбаў сын! Скэб, скэб! Скэбаў сын!“ Яны гналі яго прэч ад сябе, бо думалі, што ён сапраўды скэбаў сын. Але Джонні ведаў, што ён „саюзны“. Ён ведаў, што яго бацька не скэб, што бацька важак забастоўкі. І ён хадзіў сабе, высока задраўшы свой нос.

І скора ўся змена, у якой працаваў вялікі Джон, забаставала. Шахцёры кінулі адбойныя малаткі і вышлі з шахты. З чырвоным сцягам яны прайшлі па пасёлку.

Джонні ведаў, што гэта—справа яго бацькі. Ён ганарыўся гэтым. Але ён трымаў сакрэт. Ніхто-ніхто не пачуў ад яго ні слова, пакуль не скончылася забастоўка.

І тады расказаў аб гэтым не Джонні. Вялікі Джон расказаў пра ўсё рабятам сам, і яны зноў прынялі Джонні ў свой атрад.

# У ВЫРАЙ

## ЯК ЖУРАВЕЛЬ ЛЯЦЕЎ У АФРЫКУ

„Курлы, курлы“... пачулася высока ў небе. „Курлы!“ крыкнуў у адказ журавель, узмахнуў крыллямі і паляцеў за чарадой.

Ляцелі, ляцелі жураўлі і змарыліся. Пад вечар спусціліся на начлег. Не пачулі вартаўнікі жураўліныя, як лісіца з-за кустоў падкралася. Падняўся пераполах. Узляцелі жураўлі, ды не ўсе — адзін у лісіцы ў зубах астаўся.



Наш журавель лісіцы ў зубы не трапіў. Затое на моры яму туга прышлося: разбушавалася навальніца, завыў вецер, паліўся халодны дождж. Збіла жураўля ветрам—упаў ён на ваду. Вецер падхапіў і панёс яго па хвалях. Насіла, насіла жураўля, а потым і к берагу прыбіла. Устаў журавель, расправіў крыллі, узмахнуў імі, а ляцець то і не можа: вельмі-ж ужо прамок, аслаб і замёрз. Два дні хадзіў журавель па беразе Чорнага мора. І раптам чуе—угары крычаць жураўлі. Ён узмахнуў крыллямі і паляцеў за новай чарадой.



Пераляцелі жураўлі Сярэдземнае мора. Ад вострава да вострава ляцелі. Дабраліся да Паўночнай Афрыкі. Ёсць там горад Каір. Ляцелі над ім жураўлі — спускацца пачалі. І тут знізу загрымела: страляць у жураўлёў сталі. Трох забілі, а рэшта далей паляцела. Нашаму жураўлю толькі адно пяро выбіла шраціна.

Нарэшце прыляцелі ў самую глыбіню Афрыкі. Птушак тут на балотах і рэках сабралася цьма-цямнюшчая. І ўсе—прылётныя, з Поўначы прыляцелі.

## ХТО КУДЫ ПАЛЯЦЕЎ?

Буслы, жураўлі і ластаўкі паляцелі ў Афрыку; у самую сярэдзіну Афрыкі, да бегемотаў у госці забраліся. Шпак таксама ў Афрыку паляцеў, толькі не так далёка. Дзікія гусі – у Афрыку, у Індыю, а другія і бліжэй, у Персіі спыніліся. Зязюля хоць і дрэнна лятае, але як пачала ад зімы ўцякаць, дык таксама да Афрыкі дабралася. Жыве там у лесе, толькі не кукуе. Маўчыць наша зязюля ў Афрыцы, у гасцях нібы нямая стала.

Гнёздаў птушкі там не ўюць і птушанят не выводзяць.

Хто ляціць за 10 тысяч кілометраў, а хто і ўсяго за тысячу. Грак далёка не ляціць. Яму зімою і на Поўдні Украіны добра, ды і на Паўночным Каўказе не дрэнна. Тут і яды хапае і не вельмі холадна, і ад дому блізка. Ён і ў вырай увосень не спяшаецца, як другія, бо зусім недалёка яму ляцець. А вясной з усіх птушак першым з выраю варочаецца; дзён тры крыллямі памахаў,—і дома.

## ХТО Ў НАС ЗАСТАЕЦЦА?

Хто пракарміцца можа: цецярукі, рабчыкі, курапаткі. Па лесе чародамі сініцы лятаюць, а сярод іх—дзяцел. Ён, як важаты які, куды дзяцел, туды і сініцы. Дзяцел дзюбай кару на дрэве дзяўбе, а сініцы па снезе скачуць, упаўшых казявак збіраюць. Кормяцца яны каля дзятла, таму і лятаюць за ім. Каля чалавека жывуць вераб'і, галкі, вароны, галубы і іншыя птушкі.

Н. ПЛАВІЛЬШЧЫКАЎ.

## ПАДАРОЖЖА ПА ВАДЗЕ



На лугах нагінаецца да зямлі пажаўцелая трава. Ужо адправіўся ў сваё далёкае падарожжа дзяргач.

На Вялікім морскім шляху паказаліся качкі-цыранкі і гагары. Яны ныраюць і ловяць рыбу пад вадой. На крыллі яны падымаюцца рэдка. Плывуць і плывуць. Так, плывучы, перабіраюцца праз азёры, затокі і моры.

Пад вадою гагары і цыранкі адчуваюць сябе, як дома. Ніводзін крылаты вораг не дастане іх там. Плаваюць яны так хутка, што дaгaняюць нават рыб. А лятаюць горш за драпежных птушак, сваіх ворагаў. Пасля гэтага ясна, чаму яны не ляцяць у вырай, а плывуць.



## НАЧНАЯ ТРЫВОГА

Кожную ноч на акраінах горада трывога.



Пачуўшы шум на дварэ, людзі прачынаюцца, выглядваюць праз вокны. Што такое, што здарылася?

На дварэ перад імі моцна хлопаюць крыллямі птушкі, гагочуць гусі, крычаць качкі. Ці не тхор напаў на іх або лісіца?

Але, якія могуць быць лісіцы ці тхары ў каменным доме, за чыгуннымі варотамі? Проста, відаць, страшны сон прысніўся птушкам. Людзі зноў лажацца ў пасцелі, засынаюць спакойна. А праз гадзіну зноў гогат і краканне. Перапалох, трывога. Што такое? Што там зноў?

Адчыні акно і паслухай. У чорным небе гараць залатыя іскры зорак. Усюды ціха. Але вось нібы чыясьці цень мільгае ў небе. Чуваць лёгкі свіст. Нечыя няясныя галасы чуюцца з вышыні. Нібы кліча нехта зверху.



На гэты кліч і адгукаюцца хатнія птушкі. Яны-ж калісьці, шмат вякоў таму назад, таксама былі дзікімі. І таксама кожны год у гэты час адляталі ў вырай. А зараз вось ляцець не могуць. Яны падымаюцца на лапках, выцягваюць шыю, крычаць.

З высокага чорнага неба ім адказваюць вольныя дзікія сёстры. Свішчуць крыллі качак, звініць пераклічка дзікіх гусей.



— Го! Го! Го! У дарогу, у дарогу! Ад холаду, ад голаду! У дарогу, у дарогу! У вырай!



Заміpae ў далечыні звонкі голас пералётных, а на дварэ крычаць і сумуюць даўно адвыкшыя ад палёта ў вырай хатнія гусі і качкі.

В. БІЯНКІ.

# ПРЫГОДЫ вясёлых стратанаўтаў

Малюнкі Н. Малевіча
Вершы А. Зіміонкі



1. Янка, Пётра і Кандрат—
Змайстравалі стратастат.



2. Ну, Пятрок, шчаслівы пуць—
Стратанаўтам добрым будзь...



3. У кабінку Пётра сеў—
У Стратасферу паляцеў.



4. Пётра мчыцца ўсё вышэй,
А за Пётрам следам—змей.



5. Раптам прымус—брык!—у бок...
Справа дрэнная, Пятрок!



6. Аж Пётра скок хутчэй—
Парашутам будзе змей...



7. На змяі Пятрок павіс...
— Гэй, хлапцы, цягніце ўніз!



8. Словам, Пётра наш жывы—
Паглядзіце самі вы!

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА“. Радактар А. ЯКІМОВІЧ

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25.

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1218. 3230 экз. Менгарліт № 5439.